Сегодня нелегко найти территории, нами, людьми, не измененные. Но, кроме вмешательства в существующие тысячелетиями природные экосистемы, человек создал совершенно новую среду обитания – города.

Первые из них, появившиеся на Ближнем Востоке немногим более десяти тысяч лет назад, – небольшие, с населением в несколько тысяч человек, наверное, не сильно противоречили природе. Но прошедшие тысячелетия настолько изменили облик городов, их величину и количество, что по силе влияния на животных и растения и по характеру самой среды, созданной из камня, бетона, асфальта, аналогов в природе город не имеет. Разве что поля застывшей лавы и вулканического пепла после извержения вулканов. Кажется, живому не место среди воздуха из выхлопных газов и асфальтовых почв. И тем не менее растения и животные за столь недолгий срок существования городов смогли использовать и эту унылую среду, а в отдельных случаях даже отдали им предпочтение перед всем остальным.

Самые яркие примеры – домовые мыши, серые крысы, сизые голуби. Эти и многие другие виды животных привлечены в города уникальной, неисчерпаемой кормовой базой, созданной от оброненного куска пирожка до помоек, свалок и пищевых складов. Зачастую отношения между некоторыми обитателями городов и человеком сегодня строятся практически по законам военного времени. К счастью, такого рода отношения все-таки можно считать исключением. Как правило, в нормально живущем городе дело не доходит до объявления войны животным. Чаще существование протекает с обоюдной пользой. Животные и растения украшают и оздоравливают среду, а человек создает новые условия для гнездования, отдыха, зимовок...

Черные стрижи воспринимаются как обычные обитатели чердаков и крыш, а не высокоствольных лесов. Многотысячные стаи скворцов останавливаются на отдых в парках и скверах. Мелкий сокол – пустельга использует для своих гнезд балконы многоэтажных зданий. С чердаками связывают свою жизнь многие летучие мыши. Белки и зайцы, серые куропатки и ушастые совы, ласточки и ящерицы, бесчисленное количество бабочек, пчел, жуков становятся «горожанами». И это нормально. Значит, мы, люди, нужны животным. Вместе с нашими постройками, дорогами, машинами. Значит, и здесь, в исконно человеческой среде взаимоотношения «человек–природа» можно привести к гармонии. Нужно только не забывать, что город, искусственный водоем, сад, парк, луг – творения рук человеческих. И хозяином здесь должен быть человек: гостеприимным, умным, великодушным. Об этом – очередной номер нашего журнала.

*Игорь Бышнев*

# ЗМЕСТ

**ПТУШКІ І МЫ**
**№11'2007**



На здымку: **Поплаўны лунь**
(фота Г.Гулінскага)


**4** ПОГЛЯД
**Слово председателя**
*Владимир ИВАНОВСКИЙ*

**5** З ГІСТОРЫІІ АРНІТАЛОГІІ
**Манах, які вучыў разумець і любіць прыроду**
*Дзмітры ВІНЧЭЎСКІ*



**8** ПТУШКІ ВАКОЛ НАС
**Хранители пустельги**
*Руслан ШАЙКИН*

**9** ПТУШКІ ВАКОЛ НАС
**Птицы в Гродно**
*Николай ГУЛИНСКИЙ*



**10** ПТУШКІ ВАКОЛ НАС
**Сталовая зубатай качкі «Вадзяны верабей...»**
*Георгі ГУЛЕЎСКІ*

**12** ФОТАКОНКУРС
**Птицы городов и окрестностей**

**15** НАША ДАПАМОГА
**Луні і людзі**
*Дзмітры ВІНЧЭЎСКІ*

**17** ПА СТАРОНКАХ «ЧЫРВОНАЙ КНІГІ»
**У пошуках сіпухі**
*Вадзім ПРАКАПЧУК*



**19, 24** ПРЫРОДНАЯ СПАДЧЫН
**Ельня–2007**
*Яўген СЛІЖ*

**20** НАТАТКІ НАТУРАЛІСТА
**Выпрабаванне... вераб'ём**
*Сяргей ЗУЁНАК*

**21** ПТУШКА ГОДА
**Салавей у творах нашых чытачоў**





*Рэдактар:* Ігар Бышнёў
*Рэдакцыйная рада:* Уладзімір Іваноўскі, Аляксандр Вінчэўскі, Віктар Фянчук, Сяргей Зуёнак, Сяргей Плыткевіч, Павел Пінчук
Распаўсюджваецца бясплатна сярод сяброў АПБ



*Наш адрас:*
АПБ, а/с 306, Мінск, 220050, Беларусь
Тэл.: (017) 263 01 30. Факс (017) 263 06 13
E-mail: APB@tut.by.
**http://ptushki.org**



*Дзейнасць АПБ падтрымліваецца Каралеўскім Таварыствам Абароны Птушак (RSPB), партнёра BirdLife International у Вялікабрытаніі*

*АПБ з'яўляецца афіцыйным прадстаўніком BirdLife International у Беларусі*







# СЛОВО ПРЕДСЕДАТЕЛЯ

Дорогие друзья!

Я пишу эти строки накануне 10-го, юбилейного (!), съезда АПБ. В следующем году АПБ исполняется 10 лет. Кажется, мы только-только, чуть ли не вчера, начинали и были все выше, стройнее, с густыми модными шевелюрами. Девять лет пролетели, как один день, и это говорит о том, что мы жили очень интенсивной творческой жизнью.

Период моего председательства наложился на смену исполнительных директоров: пробивной, как танк, неуступчивый, готовый сражаться за каждую пядь своих убеждений, Александр Винчевский передал эстафету мягкому, интеллигентному, добивающемуся своих целей больше убеждением и терпением Виктору Фенчуку. Они такие разные по характеру, но такие похожие в своей любви к птицам. И еще они похожи тем, что с обоими мне было легко работать. И, опять же, все, очевидно, по той же причине: нас объединяла любовь к птицам.

За период с 1998 по 2007 годы АПБ прошло непростой путь от безызвестной общественной организации до общепризнанного республиканского лидера среди НГО. Ко мне как Председателю АПБ неоднократно обращались за помощью по различным вопросам охраны природы не только отдельные граждане, но даже представители государственных учреждений. И обращались едва ли не как к последней инстанции, а это, согласитесь, дорогого стоит.



За прошедшие 9 лет АПБ провело множество успешных акций, а многие наши члены плодотворно потрудились в значимых природоохранных проектах. Мне особенно дорог «Дикий квадрат», даже как-то язык не поворачивается назвать его «диким» – он не дикий, он – зеленый, квадрат надежды. Как говорили мне многие представители школ, этот квадрат дал надежды на то, что наконец-то в нашей республике по-настоящему повернулись лицом к вопросам серьезного экологического образования подрастающего поколения. И я уверен, что семена, брошенные доброй рукой АПБ в пытливые детские души, дадут всходы трепетного отношения к природе.

Каждая страна гордится своим природным достоянием, особенно теми экосистемами, которых мало или совсем нет в других странах. В Беларуси нет бескрайних тундр, знойных пустынь, высоких гор, побережий морей и океанов, но зато наша страна богата таинственными, неповторимыми и прекрасными болотами средних широт. Мне кажется, что большая заслуга АПБ состоит в том, что наша организация всей своей деятельностью обратила серьезное внимание властных структур нашей страны на настоящее и будущее болотных экосистем Беларуси. Достаточно вспомнить, что наибольшее число особоохраняемых природных территорий в нашей стране создано именно на базе лесоболотных и болотно-озерных комплексов. АПБ участвует в целом ряде проектов по изучению и стабилизации биологического разнообразия болотных экосистем. Как пример можно привести изучение численности и биологии вертлявой камышевки и большого подорлика на низинных болотах Полесья, а также многолетний мониторинг редких птиц на верховых болотах Белорусского Поозерья. Именно АПБ инициировало крупные проекты по восстановлению нарушенных торфяников и устойчивому управлению низинными болотами. Продолжаются работы по восстановлению естественного гидрологического режима на самом крупном верховом болоте республики – «Ельня». В продолжение работ, выполненных в 2002 году, волонтеры под руководством сотрудников АПБ построили целый каскад временных плотин на каналах, которые обезводили, точнее сказать, обескровили, это прекрасное болото, тело которого в последние годы терзали безжалостные пожары. И таких проектов и акций, проводимых АПБ, великое множество. Особо хочу отметить большую помощь при проведении этих акций и проектов со стороны Королевского Общества Охраны Птиц (RSPB), партнера BirdLife International в Великобритании.

И еще, главное богатство АПБ и его сила – это люди. Без замечательной команды, которую сплотило вокруг себя АПБ, наши успехи в деле охраны природы Беларуси были бы значительно скромнее. Также хотел бы отметить деятельность региональных отделений АПБ. За несколько последних лет география присутствия АПБ в регионах значительно расширилась, и именно работе региональных отделений обязано АПБ успехами своих кампаний и акций.

Девять лет для такой организации, как АПБ, это еще детский возраст. И «возмужание» АПБ проходило не всегда гладко, были и у нас временные неудачи и промахи, но расцениваю эти случаи исключительно как болезнь роста.

На съезде, уважаемые коллеги, Вам предстоит избрать Председателя АПБ. Я уверен, что это будет достойный человек, беззаветно любящий птиц. Мне остается только пожелать ему и вам, дорогие друзья, не забывать главный лозунг АПБ: «Вместе для птиц и людей!»

*Владимир Ивановский, председатель АПБ*

# МАНАХ, ЯКІ ВУЧЫЎ РАЗУМЕЦЬ І ЛЮБІЦЬ ПРЫРОДУ

**Дзьмітры ВІНЧЭЎСКІ**

У 1597 г. у Еўропе адбылася падзея, якая праз нейкі час літаральна змяніла грамадства. Менавіта ў гэты год арагонец Хасэ дэ Каласанц, пазней прызнаны Святым, заснаваў у Рыме першую бясплатную пачатковую школу, адчыненую для дзяцей усіх грамадскіх станаў, але найперш для самых бедных. Для пашырэння такіх школ у 1617 г. быў створаны манаскі ордэн (закон) бедных паўлінскіх законнікаў Маткі Божай школ пабожных – Congregatio Paulina clericorum Regularium pauperum Matris Dei scholarium piarum. Праз нейкі час манахаў ордэна пачалі называць проста «піярамі». Напрыканцы XVII ст. піяры ўпершыню з'яўляюцца ў ВКЛ. А ўжо праз некалькі гадоў на тэрыторыі княства пачынаюць працаваць іх бясплатныя школы.

Яшчэ праз паўстагоддзя, 6 траўня 1761 года ў вёсцы Ясенцы Лідскага павета (цяпер Воранаўскі раён на Гродзеншчыне) у небагатай шляхецкай сям'і Бенедыкта Дуніна-Юндзілла і Ружы з дому Даўгялаў нарадзіўся Станіслаў Баніфацы Юндзілл. Род Юндзіллаў (Jundzill) гербу Лебедзь (гл. мал.) вядзе свой пачатак з XV ст. з Ваўкавыскага павета.

Станіслаў Баніфацы пачаў вучобу дома ў прыватных настаўнікаў і ксяндза, дзе сярод іншага авалодаў рускай і лацінскай мовамі. Затым, з 1773 па 1776 гг., ён прайшоў пачатковы курс навук – тры першыя класы – у Лідскім піярскім калегіуме. Менавіта ў Лідзе 16-гадовы юнак сур'ёзна вырашыў прысвяціць жыццё службе ў ордэне піяраў. У Любяшоў на Валыні (цяпер Украіна) у 1777 г. ён прыехаў для праходжання пострыгу. Любяшоўскі піярскі калегіум быў адным з найлепшых у ВКЛ – яго скончылі многія вядомыя навукоўцы і палітыкі ВКЛ і Польшчы таго часу (між іншым – браты Касцюшкі). У новай школе яму пашчасціла знайсці такія кнігі, якія адпавядалі яго празе да ведаў. Увесь вольны час будучы манах праводзіў за кнігамі. За гэта пад канец сваёй вучобы ў навіцыяце прыйшлося заплаціць стратай зроку правага вока. Такім чынам, Станіслаў Баніфацый у 1777 годзе распачаў паслушніцтва, а ў 1779-м прыняў духоўны сан з часовым вызваленнем ад захавання манаскага ўкладу ў сувязі з маладым узростам.



З гэтага моманту ў яго жыцці перапляліся перыяды настаўніцкай працы і вучобы. Пасля Любяшова перад прагным да новых ведаў юнаком адкрыліся магчымасці атрымаць вышэйшую адукацыю. У 1781 г. Юндзілла накіравалі на двухгадовыя курсы тэалогіі (багаслоўя) у Віленскі піярскі калегіум. Аднак у гэты час у ВКЛ адбываецца пералом у галіне адукацыі. У сталіцы краю – Вільні – адчыняецца Галоўная школа Вялікага княства Літоўскага – Schola Princips Magni Ducatus Lithuaniae (фактычна ўзраджаецца былы універсітэт), дзе паўстае кафедра прыродазнаўства. У 1781–1784 гг. Станіслаў Баніфацы працягвае вучобу ў Віленскай акадэміі, дзе вывучае філасофію, геалогію, фізіку, хімію, тэалогію. Яму пашчасціла слухаць лекцыі па гісторыі прыроды вядомага французскага біёлага і ўрача Жана Эмануэля Жылібера, запрошанага выкладаць ва універсітэце. Менавіта Жылібер яшчэ ў Гродне першым пачаў сістэматычнае вывучэнне флоры і фауны Беларусі і Літвы, спачатку ў горадзе над Неманам, а потым у Вільні залажыў сапраўдныя батанічныя сады.

Атрымаўшы пасвячэнне на ксяндза, Юндзілл 2 гады настаўнічаў у піярскіх школах, спачатку ў Расенях, а потым у Вільні. Да таго часу Юндзілл акрамя лацінскай ведаў польскую, рускую, французскую, нямецкую мовы, а таксама, напэўна, літоўскую і беларускую.





THE MAIN HALL OF THE UNIVERSITY OF WILNO

Праз 2 гады яго пасылаюць выкладчыкам прыродазнаўства ў Шчучын. У час працы ў мясцовым калегіуме ён першым у Рэчы Паспалітай залажыў дыдактычны батанічны сад, для якога збіраў з вучнямі расліны ў ваколіцах мястэчка, а таксама заалагічныя калекцыі. Сам Юндзілл пісаў потым: «Шчучынская школа, мною ўпарадкаваная, доўгі час яшчэ была лепшай у Літве». Акрамя гэтага, кіраўніцтвам ордэна ён быў прызначаны гувернёрам у сям'ю мясцовых магнатаў і ўладальнікаў мястэчка Сцыпіёнаў дэль Кампа, апекаваўся маладымі Сцыпіёнамі-студэнтамі як у Шчучыне (падчас канікул), так і ў Віленскім універсітэце. Свае абавязкі ў доме Сцыпіёнаў Станіслаў Баніфацый цаніў высока, пра што прыгадвае ў «Дзённіку».

У 1787 г. ён вяртаецца ў Вільню і вывучае заалогію, батаніку, мінералогію ў знакамітага нямецкага падарожніка і натураліста, прафесара Георга Форстэра.

З 1790 г. выкладае натуральную гісторыю ў мясцовым калегіуме піяраў, прычым першым з выкладчыкаў робіць гэта на польскай мове (да гэтага курс выкладаўся на лацінскай). У наступным годзе, падсумоўваючы ўласныя знаходкі і літаратурныя крыніцы, выходзіць яго кніга «Opisanie roślin w prowincyi wielkiego Księstwa litewskiego naturalnie rosnacych» («Апісанне раслін у правінцыі Вялікага Княства Літоўскага, якія растуць у прыродзе», другое выданне выйшла праз 20 гадоў). За гэтую працу 3 жніўня 1791г. Юндзілл з рук караля Станіслава Аўгуста атрымаў залаты медаль «Bene Merentibus» («Добра заслужаным») – адну з дзвюх вышэйшых ўзнагарод Рэчы Паспалітай за заслугі. Другім такім медалём Юндзіл быў узнагароджаны літаральна праз год за даследванне «O źrodłach słonych i soli w Stokliszkach» («Аб саляных радовішчах і солі ў Стоклішках») (Вільня, 1792), якое ён прадставіў каралю разам з пробамі солі, атрыманай шляхам вымарожвання з салёнай вады.

16 траўня 1792 г. Камісія Нацыянальнай Адукацыі (КНА) абрала Юндзілла віцэ-прафесарам натуральнай гісторыі ў Галоўнай школе і выдзеліла 200 злотых на падарожжа за мяжу. Мэтай, якая стаяла перад ім, было атрыманне ўсебаковай прыродазнаўчай адукацыі. Таму, акрамя кантактаў з вядучымі батанікамі і падрабязнага знаёмства з батанічнымі садамі ў розных гарадах (а перад усім у Вене), Юндзілл вывучаў таксама хімію і мінералогію. Менавіта апошняй была прысвечана яго паездка ў Дрэздэн і Фрайберг.

У сакавіку 1794 г. Юндзілл вярнуўся на радзіму і атрымаў дадаткова 100 злотых ад КНА на яшчэ адну паездку ў Вену. Цяпер яго заданнем было вывучыць арганізацыю працы мясцовай ветэрынарнай школы. Пасля ён зрабіў азнаямляльную паездку ў Славакію (частку тагачаснай Венгрыі). Аднак і там, акрамя вывучэння металургіі і горнай прамысловасці, па магчымасці, займаўся батанікай, вывучаў мясцовыя і збіраў уласны гербарый.


ZOOLOGIA KRÓTKO ZEBRANA.

CZĘŚĆ DRUGA

PTASTWO

PRZEZ

X. B. S. JUNDZIŁŁA

W IMPERATORSKIM WILENSKIM UNIWERSYTECIE BOTANIKI I ZOOLOGII PROFESSORA, TOWARZYSTWA WARSZAWSKIEGO PRZYJACIÓŁ NAUK CZŁONKA.

W WILNIE

DRUKIEM JÓZEFA ZAWADZKIEGO IMPERAT. UNIW. TYPOGRAFA

1807.

Здымак А.Госцева

У кастрычніку 1797 г. ён вярнуўся на радзіму, якая ў 1795 г., пасля падаўлення паўстання генерала Касцюшкі, актамі трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай была падзелена паміж Прусіяй, Аўстрыяй і Расіяй. Землі былога ВКЛ амаль цалкам апынуліся ў Расійскай імперыі. І фактычна Юндзілл вяртаўся ўжо ў іншую краіну. 28 жніўня 1797 г. атрымаў званне доктара філасофіі, а годам пазней прыняў універсітэцкі батанічны сад. Дзякуючы яго намаганням батанічны сад з запусцелага месца з чатырма сотнямі відаў праз 13 гадоў павялічыў сваю калекцыю да 3400, а яшчэ праз 12 гадоў – да 6500 тысяч відаў раслін!

У 1802 г. Юндзілл атрымаў пасаду прафесара батанікі і заалогіі і наступныя 24 гады выкладаў батаніку і 18 гадоў – заалогію. За гэты час праз яго лекцыі і заняткі прайшло шмат студэнтаў. Цікава, што ў 20-я гады XIX ст. студэнты беларускіх губерніяў складалі прыкладна 80% ад іх агульнай колькасці ва універсітэце. Самым знакамітым студэнтам Юндзілла з'яўляецца заснавальнік беларускай арніталогіі граф Канстанцін Тызенгаўз (1786–1853).

У 1803 г., падчас універсітэцкай рэформы ў Расіі, была створана Віленская навучальная акруга (ВНА), навучальна-метадычным і адміністрацыйным цэнтрам якой стаў Віленскі імператарскі універсітэт, утвораны замест Галоўнай школы ВКЛ. Гэтай акрузе падпарадкоўваліся навучальныя ўстановы Віленскай, Гродзенскай, Мінскай, Магілёўскай, Віцебскай, Кіеўскай, Валынскай і Падольскай губерняў, а з 1810 г. і Беластоцкая вобласць. Такім чынам, ВНА ахоплівала тэрыторыю сучасных Літвы, Беларусі і Правабярэжнай Украіны, г.зн. тэрыторыю былога Вялікага Княства Літоўскага. Мовай навучання ў Віленскай навучальнай акрузе была польская. Руская мова ўводзілася ў праграму толькі па жаданню навучэнцаў.

Ужо ў 1804–05г. Юндзілл піша «Początki botaniki» ў 2-х частках («Пачаткі батанікі», якія без зменаў у тэксце вытрымалі 3 выданні: ў 1804–1805, 1818, 1829 гг.). Акрамя ліста з падзякай за выдатны падручнік ад апекуна ВНА князя Адама Чартарыйскага, Юндзілл быў узнагароджаны царом Аляксандрам I дыямантавым пярсцёнкам.

С.Б. Юндзіл шмат гадоў выкладаў і заалогію. У гэтай галіне ён таксама напісаў школьныя падручнікі, якія атрымалі назву «Zoologia krótko zebrana» («Кароткі нарыс заалогіі»). Аднак няхай чытача не падмане гэтая назва! Першы раз трохтомнае (!) выданне у 4-х частках выйшла ў Вільні ў 1807-м, другое – ?, трэцяе і чацьвёртае – у 1827 і 1829 гг. Склад і змест частак быў наступны: Cz. I: Zwierzęta ssąnce. (частка I «Звяры») – 346 ст.; Cz. II: Ptastwo. (ч. II «Птаства») – 302 ст.; Cz. 3–4: Plazy i ryby, Owady i robactwo. (чч. 3–4: «Гады і


POCZĄTKI BOTANIKI

PRZEZ

X. STANISŁAWA JUNDZIŁŁA.

WYDANIE DRUGIE.

W WILNIE

NAKŁADEM I DRUKIEM JÓZEFA ZAWADZKIEGO TYPOGRAFA AKADEMICKIEGO.


**Палац Сцыпіёнаў дэль Кампа ў Шчучыне. Сучасны выгляд.** *Здымак аўтара*

чатку заалогія як прадмет выкладалася ў 3-х класах, а потым – у 1-х і 2-х у павятовых школах (у якія з часам былі ператорваны калегіумы).

Акрамя адзначаных вышэй падручнікаў для школ, Юндзілл напісаў таксама і некалькі іншых кніг па батаніцы, энтамалогіі, мінералогіі і прыродазнаўству. Заснаваў фонд для збяднелых юнакоў з роду Юндзіллаў, а таксама «Газету Віленску», журнал «Бібліяфіл», у якія сам многа пісаў.

У 1824 г. навуковец выйшаў на пенсію, перадаў кафедру і сад (у 1825 г.) свайму вучню і далёкаму сваяку Юзафу Юндзіллу. Цяжка перажываў закрыццё ў 1832 г.



**Калегіюм піяраў у Любяшове.** Здымак п. XX ст.


**Будынкі Віленскага ўніверсітэту**

рыбы, Насякомыя і чэрві») – ст. 198; [199]–432. Такім чынам сёлета мы адзначаем 200-годдзе першых падручнікаў па заалогіі для школ Беларусі.

Першае, што кідаецца ў вочы, – гэта невялікі фармат кніг – іх памер толькі 18 на 10,5 см! Для класіфікацыі жывёл (як папярэдне і раслін) праф. Юндзілл выкарыстаў сістэму Ліннея, якую лічыў найлепшай. Тэкст падручніка па птушках падзелены на некалькі частак. Ва ўступе, акрамя агульных падыходаў да сістэматыкі птушак (якую, следам за Ліннеям, аўтар лічыць найбольш лёгкай у параўнанні з іншымі групамі жывёл), ёсць цікавыя развагі наконт мэтазгоднасці называць некаторых птушак «драпежнымі». Бо, як справядліва заўважае Юндзілл, амаль усе птушкі ядуць іншых жывёл, таму амаль усе яны «драпежныя». Для кожнага з 6 атрадаў, на якія падзяляў клас *Aves* (Птушкі) Лінней, за кароткай характарыстыкай ідзе даволі падрабязнае апісанне прадстаўнікоў атраду ў выглядзе нарысаў для некалькіх (асноўных?) родаў і іх відаў, якое напісана даволі простай і цікавай мовай. Атрады ж выдзяляліся наступныя: 1. *Accipitres* (Драпежныя): драпежныя птушкі, совы, грычуны; 2. *Picae* (Дзятлавыя): дзятлы, папугаі, крумкачовыя і інш.; 3. *Anseres* (Водныя): гусі, качкі і інш.; 4. *Grallae* (Балотныя): кулікі, страусы і інш.; 5. *Gallinae* (Курыныя): курыныя птушкі; 6. *Passeres* (Вераб'іныя): вераб'іныя птушкі і галубы. Іншых лацінскіх тэрмінаў, акрамя назваў атрадаў і відаў, у тэксце кнігі сустракаецца няшмат.

Акрамя звестак, якія Юндзілл выкарыстаў з кніг дэ Б'юфона і, напэўна, іншых вядомых біёлагаў таго часу, для апісання некаторых відаў навуковец дадае свае каментарыі. Так, напрыклад, пра сіваграка ён піша, што хаця з-за прыгажосці птушкі шмат хто забірае з гнёздаў птушанят (каб трымаць потым у якасці ўпрыгожвання шляхецкіх сядзіб), рабіць гэта не трэба. Бо дакладна невядома, чым дарослыя птушкі выкормліваюць іх, і таму такія спробы хатняга гадавання заканчваюцца няўдачай. Цікава, што ў якасці прыкладаў прадстаўнікоў розных атрадаў Юндзілл прыводзіць не толькі нашы віды, але і птушак з іншых кантынентаў, якія былі вядомы на той час. Заканчваецца падручнік Спісам усіх відаў, прыведзеных у кнізе, па-польску і на лаціне (на 4 старонках). Аднак у адрозненне ад падручнікаў па батаніцы, у «Заалогіі» зусім адсутнічаюць малюнкі. І гэта, напэўна, адзін з сур'ёзных недахопаў кніг.

Выданне атрымала шырокае прызнанне і доўгі час выкарыстоўвалася як падручнік, які рэкамендаваліся школам на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў XIX ст.. Трэба адзначыць, што спарасійскімі ўладамі па палітычных прычынах роднага ўніверсітэта, а потым і паступовае знішчэнне батанічнага саду, які ператварылі ў гарадскі парк.

Рэшту жыцця ён пражыў з такім жа светлым розумам, як і раней. Ён не быў у бяздзейнасці – шмат падарожнічаў за мяжу, каб паправіць стан здароўя – і заўсёды знаходзіў час для наведвання батанічных садоў і калег-навукоўцаў. Пры аслабленых фізічных сілах ён валодаў выдатнай памяццю. Апошнія гады жыцця шмат пісаў і друкаваў свае лісты, успаміны, часам насычаныя горыччу і іроніяй. На схіле сваіх дзён Юндзіл цалкам страціў зрок. У 1846 г. «Кур'ер віленскі» надрукаваў яго чарговае паведамленне пра цікавыя прыродныя з'явы. Аднак гэта быў апошні артыкул вялікага біёлага. 12 кастрычніка 1847 г., пражыўшы 86 год, пасля адчування на працягу некалькіх дзён слабасці, з-за выпадковага падзення ва ўласным пакоі, ён скончыў свой жыццёвы шлях.

Імем нашага вялікага земляка названы 2 віды раслін: *Rosa jundzilli Bess.* (роза Юндзілла) і *Silene jundzilli Zap.* (смалёўка Юндзілла), а таксама вуліца ў сучасным Вільнюсе.

*Дзякую Віталю Гуменнаму і Алесю Госцеву за дапамогу ў стварэнні гэтага артыкула.*

# ХРАНИТЕЛИ ПУСТЕЛЬГИ

**Руслан ШАЙКИН,** фото автора



Долгие годы хищные птицы считались вредными обитателями дикой природы. На них было разрешено охотиться любыми возможными способами в любое время года. За отстрел хищных птиц полагались даже премии. Сегодня уже известно, что ни вредных, ни полезных животных в природе нет. Каждый вид выполняет свою функцию и занимает свою экологическую нишу. Маленький соколок – пустельга, мелкий хищник, также пострадал от охотников и браконьеров. Отрицательно сказывается на состоянии популяции сокола уничтожение островных участков леса, применение химических средств в сельском хозяйстве, разорение гнезд. И если раньше пустельга была едва ли не самой многочисленной и распространенной хищной птицей в Европе, то сегодня ее численность сокращается во многих странах.

Пустельга является видом, который не избегает соседства с человеком. Известно большое количество случаев гнездования птиц в больших и малых городах, где сокол часто гнездится во всевозможных полостях и чердаках высоких жилых зданий, на колокольнях, башнях, высоковольтных столбах. В Бресте и окрестностях гнездится более 35 пар. В Минске, предположительно – не менее десятка. В окрестностях Варшавы отмечается на гнездовании около 60 пар. В г.п. Мачулищи Минского района располагается локальное поселение (колония) пустельги из 8 пар, известное как минимум с 2000 г. Особенностью данной колонии является гнездование соколов на соснах, т.е. в естественной среде. Подобные естественные скопления гнездящихся соколов пока единичны на территории нашей страны. Обитая рядом с человеком, пустельга привыкает к нему и относится абсолютно спокойно. В Мачулищах гнезда регулярно находятся на соснах, растущих в нескольких десятках метров от асфальтированной дорожки, по которой ежедневно проходит несколько тысяч человек.

История изучения и сохранения мачулищанской колонии пустельги начинается с 2000 года, когда в поселке был создан детский экологический клуб «Биоразнообразие». Членами клуба была обследована территория




соснового бора и учтено массовое поселение пустельги. Есть информация о гнездовании здесь соколов еще с 1998 года. Любопытно то, что в эти годы сосновый бор уже являлся биологическим заказником местного значения «Мачулищанские сосны». К сожалению, в научном обосновании создания заказника, как впоследствии и в обосновании его ликвидации в 2003 году, отсутствуют данные о локальном поселении пустельг. Таким образом, школьники стали единственными свидетелями и исследователями пустельги в Мачулищах. В 2003 году воспитанник клуба Анатолий Цуба представил ученическую исследовательскую работу на республиканскую конференцию школьников. В работе четко прослеживаются угрозы для колонии пустельги. Становится понятно, что существование колонии пустельги зависит от того, будет ли сохранен сосновый бор. Территория уже давно представляет интерес для застройки.

В 2003 году одно из 2 искусственных гнезд, устроенных школьниками, было занято соколами. Окрыленные удачей, воспитанники клуба предложили устроить серию искусственных гнездовий на соседних участках и на соснах возле школы, для того чтобы сместить гнездовую колонию с находящегося под угрозой вырубки и застройки соснового бора. По-прежнему оставалась актуальной и идея сохранения заказника, который на тот момент уже был обречен на ликвидацию.

Впоследствии ни одно из изготовленных гнездовий не было занято пустельгой. Соколы без проблем находили старые гнезда серой вороны и поселялись в них. В одном гнезде пустельги могли жить 2-3 года, пока оно совсем не рассыпалось. Идея смещения колонии в безопасное место не удалась.

Школьники активно продолжили писать детские научные работы, которые все больше стали напоминать «крик души». Не смогла помочь и районная инспекция природных ресурсов и охраны окружающей среды, под вниманием которой ликвидировали заказник. Благодаря выступлениям

детей удалось поднять общественный резонанс, но решить проблему не удалось. Проводимые санитарные рубки осуществлялись без участия орнитологов, обитание пустельги в Мачулищах благополучно умалчивалось местными властями, заказник закрыли, а территория попрежнему планировалась под застройку. Местные жители поддерживали идею вырубки леса, так как было обещано построить второй детский садик. Здания первого садика катастрофически не хватало для всех детей. Таким образом, решались сразу две проблемы: поселок мог получить новый детский сад, который, в принципе, можно было построить и в другом месте, и избавиться от ненавистного соснового бора, имеющего скандальную «зеленую» историю. Ведь была еще и группа активистов из числа местных жителей ратующих за спасение сосен, которая в свое время стала инициатором создания заказника «Мачулищанские сосны».

Нет пределов детскому энтузиазму! Члены клуба «Биоразнообразие» активно включаются в исследовательскую работу по методике «Дикий квадрат». АПБ помогает выпустить информационный буклет по проблемам мачулищанской пустельги. В работе клуба возникает идея создания заказника для пустельги под названием «Соколиный».

Поддержав инициативу мачулищанских школьников, АПБ подготовила проект «Сохранение колонии пустельги в Минском районе через создание заказника местного значения «Соколиный». Проект поддержан Министерством природных ресурсов и охраны окружающей среды Республики Беларусь, Государственной инспекцией охраны животного и растительного мира при Президенте Республики Беларусь. Проект выполняется при финансировании Фонда Исар. Экспертами проекта выступают ученые из Академии наук. В Мачулищах уже создана детская инициативная группа «Хранители пустельги», которая продолжит работу по сохранения сокола, ставшего уже не только символом клуба «Биоразнообразие», но и символом детской борьбы по сохранению природного наследия родного края. «Мачулищи наш общий дом, – говорят юные хранители пустельги. – Здесь хватит места и людям и птицам!».

# ПТИЦЫ В ГРОДНО

**Николай ГУЛИНСКИЙ,** фото автора

Как и в любом другом городе нашей страны, в древнем Гродно наиболее часто встречаются грачи, галки, серые вороны, скворцы, воробьи, синицы, сизые голуби и другие птицы. Однако назвать здесь точное количество гнездящихся, мигрирующих и случайно залетающих видов птиц практически невозможно из-за высокой мобильности пернатых.



Мне приходилось наблюдать в лесопарках, скверах, на водоемах, реках Неман и Лососянка не менее 80 видов птиц. Безусловно, их значительно больше. Так, только в Румлевском лесопарке и его окрестностях за 15 лет исследований специалистами отмечено 100 видов птиц. А есть еще старый лесопарк Пышки, Коложский парк и другие места, где встречаются и гнездятся многие виды птиц. Самые обычные из них – это зяблики, пеночки, зеленушки, большие пестрые и черные дятлы, поползни, дрозды-рябинники, вяхири, горихвостки-чернушки, белые трясогузки, черные стрижи.

В то же время наряду с обычными можно встретить и довольно редкие виды птиц, в том числе и занесенные в Красную книгу РБ. Так, любимыми местами гнездования зеленого дятла являются растущие по берегам Немана и Лососянки старые вербы и черные ольхи. Уже ранней весной здесь в 5-6 местах можно услышать токующих самцов и самок этого, пожалуй, самого красивого из наших дятлов. В местах впадения рек Лососянки и Городничанки в Неман нередко встречается обыкновенный зимородок. Зимой, когда Неман уже закован в ледяной панцирь, в районе Коложской церкви обычно остаются небольшие незамерзающие участки воды. Эти места очень нравятся еще одним «краснокнижникам» – очень красивым и интересным уткам – большим крохалям. На протяжении нескольких месяцев крохали здесь кормятся, охотятся на мелкую рыбешку, мастерски ныряя под воду, а также отдыхают. И если большие крохали в это время обычно соседствуют с зимующими кряквами, то стайки обыкновенных гоголей держатся, как правило, обособленно. В этом году в конце зимы на реке Лососянке в черте города наблюдалась оляпка. Осенью и зимой в Гродно на голубых елях кормились семенами шишек чудо-птицы – клесты-еловики. В зимнее время нас посещают и другие залетные гости – свиристели и обыкновенные чечетки.

Несколько лет назад по пути на зимовку в районе Гродно в небольшом пруду «приводнилась», чтобы немного отдохнуть и набраться сил для дальнейшего полета, необычная гостья – краснозобая гагара.

В Гродно иногда можно встретить охотящихся ястребов – перепелятника и тетеревятника. Гнездятся также серая неясыть и ушастая сова.

В последние годы на плоских крышах недостроенных и заброшенных зданий Гродненского завода «Азот» гнездится довольно большая колония еще одной «краснокнижницы» – сизой чайки. Однажды я насчитал более 60 сизых чаек, поднявшихся в воздух при моем появлении в этом месте. В зданиях «Азота» ежегодно селится несколько пар обыкновенной пустельги, а также других видов птиц.

Это только некоторые из пернатых нашего города. Но даже из этого перечня видно, что, для того чтобы наблюдать за птицами или их фотографировать, не обязательно выезжать куда-то далеко за город. Тем более что в городе птицы постепенно привыкают к людям, они менее осторожны и сделать удачный снимок здесь бывает проще. Так, например, в 13-градусный мороз без всякой маскировки с расстояния 2–3 метров я снимал кормящихся в городе на облепихе снегирей и зеленушек. Оляпку на реке Лососянка при осторожном подходе можно было снять с 5–10 метров. На многолюдной улице Горького, где на елях кормились клесты-еловики, птицы порой не обращали никакого внимания на фотоохотника.

Не было особых хлопот при съемках серой вороны-альбиноса, находящейся в стае своих родственников, а также зябликов, вяхирей.

Несколько настороженно вели себя большие крохали, что требовало принятия мер по маскировке, терпения и выдержки.

Птицы – это удивительные создания природы. Чтобы жить в гармонии с природой, мы должны и в городе дать шанс нашим пернатым сохранить места их обитания и научиться самим жить в равновесии с окружающей средой.

**Георгі ГУЛЕЎСКІ,** ганаровы сябра АПБ, Гродна

# Сталовая зубатай качкі

Неяк перад моцнымі маразамі я вырашыў пашпацыраваць уздоўж Нёмана. Мне хацелася паглядзець, ці засталіся яшчэ вялікія савукі. Вялікія крыгі амаль зніклі, і толькі асобныя невялікія «крыжкі» маглі патурбаваць качак каля берагу. Сваю вясновую дроб забарабаніла чорная жаўна, а потым гучна крыкнула і пераляцела з таго берагу ў недалёкі ад мяне вербалоз. «Ага, – падумаў я, – пачынаецца вясна». Тут жа недалёка плавалі і чорна-белыя рыбакі – вялікія савукі, дзеля якіх я і распачаў выправу. Большасць савукоў трымалася бліжэй да берагу, дзе плынь не была такой хуткай. Два самцы і восем самак амаль як па чарзе ныралі ў цёмную ваду. Сваю сціплую афарбоўку самкі ўдала кампенсавалі пушыстым чубам вохрыстага колеру на галаве. Ён амаль свяціўся на сонейку, калі птушкі адпачывалі на крызе. У бінокль я прыгледзеў вялікі сумёт снегу каля паваленага дрэва і вырашыў выкарыстаць яго для маскіроўкі.

Па беразе абышоў адкрыты ўчастак. Потым, прыгнуўшыся, падкраўся да дрэва з сумётам і стаў асцярожна выглядваць, каб упэўніцца, што качкі не адляцелі. Усё было добра – савукі працягвалі займацца рыбалкай. Цяпер заставалася самае цяжкае: накрыцца белым капюшонам і з фотакамерай «на ўзводзе» высунуцца з-за снежнага прыкрыцця, каб паспрабаваць зрабіць некалькі здымкаў. Першая частка прайшла паспяхова: белы капюшон з адтулінамі для вачэй замацаваў на галаве, фотакамера была ўключана і ўсталявана на патрэбны рэжым. І я пачаў паволі караскацца на верх сумёта. Праз нейкі час я ўжо быў на яго версе і прыўзняў галаву, каб паглядзець на савукоў. Вось яны! Добра. «Зараз трэба...» – падумаў я, і тут мой локаць з шумам праваліўся ў мокры снег. Ляпанне крылаў і плёск вады паведамілі мне, што аб'екты здымак пакінулі месца рыбалкі. Шкада! Столькі працы, і ўсё сарвалася ў апошні момант! Але я вырашыў застацца: калі птушкі трымаюцца тут пастаянна, значыць, гэта месца для іх вельмі падыходзіць. Таму падыходзіць і для мяне, і я стаў чакаць вяртання савукоў.

Прайшло амаль паўгадзіны, і раптам, з-за праплываючай супраць мяне крыгі паказаўся прыгожы чорна-белы самец. Ён плыў дакладна на мяне! Адлегласць паміж намі хутка скарачалася: дваццаць, пятнаццаць метраў... Што ён будзе рабіць? Можа сядзе адпачнуць на край прыбярэжнага лёду? І раптам ён нырнуў пад лёд. Я хутка скарыстаў яго знікненне і заняў зручную пазіцыю для здымак.

Савук выплыў, трымаючы нешта даволі вялікае ў сваёй загнутай дзюбе. Ён паволі плыў ад краю лёду, трымаючы дзюбу са здабычай у вадзе. Я не вытрымаў напружання і пачаў здымаць. Але разгледзець, што гэта, у мяне не атрымалася. Выцягнуўшы шыю, качка праглынула гэтае «нешта». Эх, бінокль бы... Але рухацца мне было нельга. Птушка зноў паплыла да краю крыгаў і зноў нырнула пад іх. У гэты раз, калі савук вынырнуў, я паспеў не толькі зрабіць здымак, але і разгледзець хвост рыбкі, якую ён зноў трымаў у дзюбе. Зноў нырок – і зноў здабыча.

Гэта ж яго сталовая са свежай рыбай! Я ўсё здымаў і здымаў – то нярэзкі кадр, то птушка павярнулася не вельмі ўдала. Пад'еўшы з дзесятак рыбак, савук задаволена паплыў разам з плынню. А я нарэшце змог, не згінаючыся, сесці і расцерці замерзлыя рукі. Я быў задаволены не менш за савука – упершыню мне пашчасціла назіраць за рыбалкай гэтай прыгожай качкі.

# «Вадзяны верабей» ізноў на Ласасянцы!

У апошні дзень зімы, 28 лютага, я ішоў па беразе ракі Ласасянкі недалёк ад Гродна. Пасьля моцных маразоў рака яшчэ не вызвалілася ад рэштак прыбярэжнага лёду. У вусьці ракі на вялікай прамыіне трымаліся крыжанкі і з дзесятак вялікіх савукоў, якія ныралі за рыбай. Метрах у пяці–дзесяці ад вады стаялі, як клічнікі, адзінкавыя шэрыя чаплі, якія засталіся на зімоўку. Я зрабіў некалькі здымкаў зімовых краявідаў, і пайшоў уверх супраць плыні. Крыжанкі, якія прызвычаіліся да рыбаловаў, не адляталі, але ціхенька адплывалі да супрацьлеглага берагу і насцярожана праважалі мяне поглядамі.

Калі я параўняўся з бетоннай апорай, якая падтрымлівае над ракой вялікую трубу, з яе нечакана для мяне зляцела цёмная птушка памерам з дразда. Яна праляцела метраў 70 і села на беразе каля самай вады. Гэтыя паводзіны адразу падказалі мне, што гэта не дрозд, а вельмі рэдкая ў нас аляпка. Амаль кожны год з халоднай зімой іх сустракаюць пад Гродна на хуткіх рэчках з незамярзаючай вадой: Ласасянцы і Татарцы. Але апошнія зімы, наколькі я ведаю, яе ў нас не адзначалі.

Як аказалася, я не памыляўся! Я прайшоў наперад і пачаў уважліва разглядаць усе камяні, якія тырчалі з вады – аляпка любіць сядзець на іх, таму што робіцца амаль нябачнай з-за цёмнага пер'я на спіне і баках. Аднак на камянях нікога не было. Тады я павярнуўся і стаў задумліва разглядаць хуткую плынь ракі: куды ж яна магла схавацца? І тут я заўважыў ярка-белую пляму адразу на падводным камні. (У аляпкі на грудзях вялікая белая пляма). Затым пляма знікла, а калі я схапіў бінокль – з'явілася зноў. Так, на падводным камні ў струменьчыках хуткай сплываючай да Нёмана вады сядзела прыгажуня – аляпка!

Не раздумваючы, ледзь стрымліваючы сябе, я амаль кінуўся да яе паскораным крокам. Галоўнае – не патраціць яе з поля зроку. Як яна паставіцца да майго суседства? У мяне не было ніякага досведу фатаграфавання гэтай птушкі. Але некалі ж трэба пачынаць!

Схаваўшыся за ствол дрэва, я нацягнуў на галаву белы капюшон з прарэхай для аб'ектыву фотакамеры і пачаў павольны падыход. Калі здолеў наблізіцца метраў на 15, зрабіў першы кадр, потым праз два крокі – яшчэ адзін. Але птушка аказалася непалахлівай і падпусціла мяне яшчэ бліжэй. Потым пераляцела да супрацьлеглага берагу і села на галінку. Дзякуючы гэтаму яна зусім злілася з берагам, і толькі ярка-белая пляма на грудзях выдавала яе месцазнаходжанне. Мне прыйшлося адыйсці назад, каб птушка супакоілася і зноў села на свой улюбёны падводны камень. І сапраўды, яна хутка пераляцела на яго. Асцярожна хаваючыся за прыбярэжныя дрэвы, я зноў наблізіўся да яе метраў на 5-6. Ніколі мне не даводзілася назіраць аляпку з такой адлегласці. Асьцярожна выставіўшы аб'ектыў з-за дрэва, я зрабіў яшчэ колькі здымкаў. І хоць з надвор'ем не пашанцавала – ішоў густы снег, і сонца схавалася за тоўстым слоем аблокаў – здымкі ўсё-ткі атрымаліся.

# адоў і ваколіц





Дамовы верабей
ФОТА: СЯРГЕЙ ЗУЁНАК



Сарока
ФОТА: РУСЛАН ШАЙКІН



Звычайная рудахвостка
ФОТА: РУСЛАН ШАЙКІН



Вялікі стракаты дзяцел
ФОТА: МІКАЛАЙ ГУЛІНСКІ



Чорны бусел і зімародак
ФОТА: ГЕОРГІ ГУЛЕЎСКІ

# ЛУНІ І ЛЮДЗІ

**Дзмітры ВІНЧЭЎСКІ**

Я даўно павінен быў напісаць падобны артыкул, бо з поплаўнымі лунямі звязана больш 10 гадоў майго жыцця. А яшчэ таму, што мы, людзі, можам і павінны дапамагчы ім.

Мае прыгоды з лунямі пачаліся ў чэрвені 1993 года. Па прапанове свайго навуковага кіраўніка (і па сумяшчальніцтву старэйшага брата) я са сваім найлепшым сябрам і аднакурснікам Сашай Ясевічам паехаў на ўсходні ўскраек Гродна, каб праверыць здагадку, ці гняздуюць луні ў нас на палях таксама, як і ў Заходняй Еўропе. І тут нам сапраўды пашанцавала – не паспелі мы адыйсці ад апошняга прыпынку гарадскога аўтобуса і двух соцень метраў, як заўважылі над жытнім полем адразу трох самцоў! У першы ж дзень даследаванняў на гэтым полі мы знайшлі 2 гнязды поплаўных лунёў. А ў наступныя дні на ўсіх палях, дзе раслі азімыя збожжавыя ці рапс, мы бачылі лунёў і знаходзілі іх гнёзды. У гэты ж першы палявы сезон выявіліся праблемы, якія мы паспрабавалі нейкім чынам вырашыць, яшчэ не ведаючы, што нешта падобнае адбываецца практычна ва ўсіх краінах, дзе жывуць поплаўныя луні...



**Камбайнер Іван Тамчук з выратаваным птушанем поплаўнага луня.** *Здымак Г.Гулеўскага*

### Луні

Першыя поплаўныя луні – зразумела, самцы – прылятаюць да нас ужо ў канцы сакавіка – пачатку красавіка. Аднак больш звыкла ўбачыць і пачуць птушак над сухой мінулагодняй або хутка падрастаючай зялёнай травяністай расліннасцю ў пачатку траўня. Самцы сваімі фігурамі вышэйшага пілатажу: петлямі, бочкамі, пікіраваннем – і крыкамі пад час іх выканання прыцягваюць увагу самак да абраных месцаў гнездавання. Самка выбірае сабе будучага партнёра не толькі па тону афарбоўкі апярэння (з узростам самцы робяцца больш светлымі – чым старэйшы самец, тым больш ён дасведчаны; а жывуць луні амаль да 20 гадоў), але і па інтэнсіўнасці выканання токававых палётаў. Калі самец здольны некалькі разоў на дзень паказваць сваё лётнае майстэрства, значыць, ён будзе здольны добра забяспечваць сваю будучую партнёршу і птушанят на працягу наступных двух з паловай месяцаў. Зразумела, што самка не задавальняецца толькі назіраннем за прыгажосцю палётаў самца (хоць часта далучаецца да яго паветраных прадстаўленняў), але і чакае ад яго больш-менш рэгулярных прыносаў здабычы. Менавіта па колькасці і памерах здабычы, якую прыносіць ёй самец, яна вызначае колькасць і «якасць» іх агульных птушанят. Справа ў тым, што ў поплаўных лунёў толькі самец займаецца паляваннем ад пачатку ўтварэння пары да часу, пакуль птушаняты не падрастуць настолькі, каб не мець патрэбы ў абагрэве мацярынскім целам. Адбываецца гэта не раней, чым яны дасягнуць двухтыднёвага ўзросту. Тады ўжо самка нават фізічна не змагла б абаграваць сваіх падрослых птушанят, ды яны ўжо і не патрабуюць гэтага, бо ў іх усталёўваецца ўнутраны механізм падтрымання неабходнай тэмпературы цела. Толькі пасля гэтага самка пачынае дапамагаць самцу ў пошуку здабычы, але яшчэ нейкі час палюе толькі паблізу ад гнязда. Зразумела, што толькі ад паляўнічых здольнасцяў самца і ад даступнасці здабычы залежыць, колькі птушанят здолее вырасці ў лунёў у гэтым сезоне. Таму самка не толькі рэгулюе колькасць яек, якія яна адкладвае з інтэрвалам прыкладна ў суткі, але і час, з якога яна будзе іх шчыльна наседжваць.

Што гэта значыць для «якасці» птушанят, а па-іншаму – для іх шанцаў на выжыванне? Менавіта ад тэрміну, калі мама пачне абаграваць яйкі сваім цяплом, і залежыць, якім чынам птушаняты будуць вылупляцца. Калі інкубацыя пачнецца пасля адкладкі першага яйка, птушаняты будуць вылупляцца па чарзе з інтэрвалам у дзень-два. І ў самым распаўсюджаным выпадку кладкі з 5 яек, калі першаму з птушанят будзе ўжо 10 дзён, апошні толькі вылупіцца! Зразумела, што ў сіблінгаў (так у біялогіі называюць братоў і сясцёр) будуць вельмі розныя шанцы на выжыванне, калі раптам ежы не хопіць для ўсіх.

Мы часта назіралі такую карціну «аптымізацыі памеру вывадку» – спачатку памірае і знікае самы маленькі і самы малодшы, потым наступны за ім па памерах і ўзросце, і г.д. І ў выніку з пяці птушанят да вылету з гнязда дажываюць 1-2 найстарэйшых. Але карціна можа быць іншай, калі самка пачне інкубацыю толькі пасля адкладкі другога, трэцяга, або нават апошняга яйка. Тады 2-, 3 або нават і ўсе птушаняты маюць аднолькавы ўзрост, аднолькавыя памеры (назіралі мы і такія выпадкі) і – амаль аднолькавыя шанцы на выжыванне. Хутчэй за ўсё выбар стратэгіі інкубацыі самкай залежыць ад колькасці і памеру ахвяр, якія ёй прыносіць самец пад час «перыяду заляцання». Калі сезон абяцае быць добрым, самка выбірае больш сінхронных птушанят, калі сезон горшы – больш сэнс ва розназўростаўых дзецях.

**І людзі...**

Але як аказалася, гэта не асноўныя праблемы, якія перашкаджаюць луням выгадаваць найбольшую колькасць патомкаў. Поплаўныя, як і іншыя луні, гняздуюць на зямлі. Гняздо робяць у травяністай расліннасці. А ў траўні толькі азімыя збожжавыя, рапс, шматгадовыя травы, канюшына і люцэрна маюць адпаведную структуру і вышыню, каб надзейна схаваць самку і гняздо ад наземных драпежнікаў. Вось тут і пачынаецца канфлікт інтарэсаў паміж людзьмі і лунямі. Бо людзі садзяць гэтыя культуры зусім не для лунёў і іншых насельнікаў сельгаслондшафтаў. У розныя гады лічбы адрозніваюцца, але ў сярэднім кожнае пятае гняздо гіне пад час сенакосу, бо луні зрабілі яго ў траве ці канюшыне. Лічбы яшчэ больш страшныя для ўсіх гнёздаў на сельгаскультурах. Бо хаця птушкі часам будуюць гнёзды на асаковых балотах ці ў трыснягу (у сярэднім у 7% выпадкаў), а часам у сухой мінулагодняй расліннасці ці на пустырах (у сярэднім у 5%), аднак адбываецца гэта нават не штогод. І менавіта гнёзды на палях значна пераважаюць не толькі ў Беларусі (у сярэднім у 89% выпадкаў), але і практычна па ўсёй Еўропе. За час, які патрэбны птушанятам, каб навучыцца лётаць – а гэта прыкладна 70 дзён ад выбару самкай месца гнездавання, – амаль усе азімыя даспяваюць. І ў залежнасці ад надвор'я і тэрмінаў пачатку гнездавання, доля вывадкаў, птушаняты з якіх да пачатку жніва не ўмеюць лятаць, вагаецца ад 12 да 100%! Гэта значыць, што ў асобныя гады з сухім летам (як, напрыклад, у 1999 г.) ніводнае птушаня не вылятае з гнёзд поплаўных лунёў!





Ніколі не забуду свае ўражанні ад выгляду птушаняці, якому жаткай цалкам адрэзала хвост. З раны струменілася кроў, а яно маўчала! Чалавек у падобным выпадку крычаў бы, звер выў бы ці скуголіў... А тут – вусцішнае маўчанне пад гукі працуючага камбайна...

Ці можна дапамагчы гэтым птушкам? На шчасце, аказалася, што так. І хачу падкрэсліць, што ЎСЕ механізатары і камбайнёры, з якімі мы сустракаліся пад час вывучэння лунёў на Гродзеншчыне, з ахвотай пакідалі няскошаныя ці неўбраныя ўчасткі расліннасці вакол гнёздаў гэтых птушак (ад 3х3 да 5х7 м). Прычым часам рабілі гэта самастойна, без нашых просьб! Некалькі разоў мы знаходзілі на такіх выратаваных гнёздах кавалкі хлеба ці сала – пачастунак ад працаўнікоў палёў. Бо хаця большасць сельскіх жыхароў з варожасцю ставіцца да драпежных птушак увогуле («крадуць курэй...»), але паглядзеўшы на лунёў, яны разумелі – драпежнікі, якія важаць не больш 500 г, калі б нават хацелі, не здольныя зрабіць шкоду двух-трохкілаграмовай курыцы.

Аднак няскошаныя ўчасткі ў першую чаргу прыцягваюць увагу ліс і бадзяжных сабак. Таму да гэтага часу ніводнае птушаня нават з абкошаных гнёздаў у траве ці канюшыне не вылятала – наземныя драпежнікі рабілі сваю справу... Часам птушаняты не паспявалі выляцець і з пакінутых «астраўкоў» жыта ці рапсу. Але з гэтага году мы пачалі выкарыстоўваць заходні метад дапамогі луням *(гл. здымак)*. Там такія гнёзды агароджваюць невысокай металічнай сеткай. І нават кладкі на люцэрне здольныя дажыць да часу, калі ў іх не толькі вылупяцца, але і вырастуць і выляцяць луні.

Таму дапамагчы поплаўным луням у нашых сілах. Бо калі людзі будуць думаць толькі пра надоі і намалот, праз колькі год адзінымі жывёламі, якія будуць рухацца па нашых палетках, будуць алені на эмблемах «Джонаў Д'іраў»...



**Сябры АПБ Юры Лукашэнка і Дзмітры Ракіцкі абгарожваюць сеткай няскошаны ўчастак травы**

# У ПОШУКАХ СІПУХІ

**Вадзім ПРАКАПЧУК**
Фота Івана БАГДАНОВІЧА

Гэтая гісторыя распачалася шмат гадоў таму... Я быў яшчэ падлеткам, рабіў першыя крокі ў назіранні і вывучэнні птушыных, калі мне ў рукі трапіла кніга аб рэдкіх птушках Беларусі. Асаблівасці біялогіі, выява сіпухі, так, менавіта яе, з «сэрцападобным тварам», чорнымі выразнымі і таямнічымі вачамі – усё гэта навявала нейкую своеасаблівасць і містычнасць, але яшчэ больш узрастала жаданне ўбачыць гэтую рэдкую саву-прыгажуню.



Літаральна праз тыдзень, праходзячы міма суседняга шматкватэрнага дома, праз адчыненае акно на першым паверсе я ўбачыў чучала савы. Добра ведаючы гаспадароў кватэры, праз колькі хвілін я апынуўся перад савой. Гэта была сіпуха. Высветлілася, дзе і калі яна трапіла пад колы аўтамабіля, перш чым апынуцца на сценцы. Угаварыўшы бацьку, на наступны дзень я выехаў з ім на месца здарэння, каб апытаць вяскоўцаў. Трэці чалавек, якога мы сустрэлі ў вёсцы, на пытанні пра соў, адразу паказаў на капліцу, што стаяла на старых могілках. Трапіць у яе не атрымалася, а праз год яна ўвогуле разваліліся... Тады я не ведаў, што мара ўбачыць сіпуху здзейсніцца толькі праз дзесяць год...

У 2005 годзе маім сябрам – Івану Багдановічу і Віктару Фенчуку – пры спецыяльных пошуках сінантропных соў на Брэстчыне ўдалося знайсці гнездавую пару сіпух. Колькі соцень кіламетраў уначы накруцілі яны на аўтамабілі па вёсках, фермах, парках! Выкарыстоўвалі магнітафонны запіс галасоў соў, распытвалі мясцовых жыхароў – усё дарэмна. Падчас аднаго са шматлікіх пераездаў, у святле фар дарогу ім пераляцела нейкая сава! Тэрміновы прыпынак, прайграванне магнітафоннага запісу голаса сіпухі, і... дзесьці недалёка адгукнулася адна сава, потым другая, а праз хвіліну дзве сіпухі лёталі над галовамі шчаслівых арнітолагаў. Праз некалькі тыдняў мая мара ўбачыць сіпуху нарэшце здзейснілася! Але як...

Па дамоўленасці з Віктарам я з Сямёнам Левым (ён паехаў дадаць «новы від» у свой ужо і без таго багаты спіс відаў птушак) паехалі глядзець сіпуху. Трэба сказаць, што пара сіпух абрала для гнездавання паўпустуючую пабудову сярод поля, якая выкарыстоўвалася пад збожжасховішча і склад калійных угнаенняў. На месцы аказалася, што, для таго каб убачыць саву, трэба было выканаць някепскі акрабатычны нумар. Пры дапамозе сяброў, якія трымалі за ногі, неабходна было праціснуцца праз дзірку ў металічным насціле трэцяга паверха. Пры гэтакім «становішчы кажана», неабходна было ліхтарыкам свяціць у трубу, якую сіпухі абралі для гнязда. Уражанняў было больш, чым планавалася! Збоку, у трубе, асляпленая святлом, сядзіць на яйках сіпуха. Унізе – бятонная падлога з расыпаным угнаеннем. Уверсе – вузкая дзірка, якая не дае магчымасці свабодна дыхаць, нейкія металічныя прадметы ўпіваюца праз футболку ў бакі. Дзесьці паміж гэтым усім ты – уніз галавою (адчуванне, што ўся кроў арганізма пераліваеца ў яе), да сіпухі – два метры, да падлогі – сем. Налюбаваўшыся хараством савы, даю каманду на працягванне мяне ў адваротным накірунку. Але прасцей сказаць, чым зрабіць. На тое, каб на поўным выдаху вышкрэбсціся назад, спатрэбілася некалькі хвілін. Аб усіх акрабатычных намаганнях нагадвалі моцнае сэрцабіцце, шум і боль у галаве ды падраныя грудзі і рукі. Але гэта былі дробязі ў параўнанні з тым, што я нарэшце ўбачыў сіпуху – сапраўды, прыгажуня!

У тым жа годзе пашчасціла пачуць і голас сіпухі. У сярэдзіне сакавіка паехалі мы з Андрэем Абрамчуком на пошукі сінантропных соў у Камянецкі раён. Гадзіннік паказваў далёка за поўнач, калі мы спыніліся ля буйной жывёлагадоўчай фермы. Я, узяўшы ліхтар, падыйшоў да цагельнай трансфарматарнай падстанцыі. Дарэчы, адтуліны іх пліт перакрыцця – улюбёнае месца гнездавання сыча-сіпеля на Брэстчыне. Пад трансфарматарам знаходжу шмат пагадак сыча. Андрэй запускае запіс яго голасу. Літаральна адразу з цемры наляцела сава, якую не ўдалося вызначыць. Але яшчэ праз хвіліну яна зноў дала знаць аб сабе – над намі, а потым на ўскрайку поля, у цішыні веснавой ночы пракрычала сіпуха – адзін у адзін, як на дыску. Радасць і нечаканасць сустрэчы крыху азмрочыў той факт, што месца яе жыхарства вызначыць не ўдалося, нават за некалькі дзённых выездаў у гэтую мясцовасць.

У той жа год адбыўся выпадак, пра які проста немагчыма не расказаць. У чарговым дзённым выездзе з Кірылай Яфімовічам мы пад'ехалі да варот буйнога жывёлагадоўчага комплексу. Вартаўнікі паведамілі, што ёсць іх калега, які штосьці павінен ведаць пра соў. Праз хвілін дзесяць да нас падыйшоў прыемны гаваркі чалавек, які неяк зусім проста так паведаміў, што на комплексе другі год жыве пара сіпух. На наша здзіўленне ён дадаў беспамылковае ўказанне малюнка савы ў англійскамоўным вызначальніку і голаса на дыску. Пад высокай цагельнай воданапорнай вежай (менавіта там пражывалі совы) удалося знайсці больш за два дзесяткі пагадак. Далейшая гаворка працягвалася ўжо на прахадной, дзе ён паказаў уласны малюнак сіпухі і паве-



даміў шмат цікавых эпізодаў сваіх назіранняў за дарослымі птушкамі і мінулагоднім вывадкам.

Бягучы год акрэсліўся адразу некалькімі момантамі. Па-першае, «усім вядомая брэсцкая пара сіпух» трэці год запар загняздзілася ўсё ў той жа трубе, дзе паспяхова змагла выгадаваць птушанят. Гэта дало магчымасць правесці «традыцыйны сямейны выезд на кальцаванне сіпухі». Яшчэ больш здзівіла тое, што праз паўтара масяцы ў трубе сядзелі сем пухавікоў другога на год вывадка. На жаль, ужо цалкам апераныя птушаняты па невядомых прычынах загінулі, але дарослыя птушкі засталіся і, спадзяёмся, у наступным годзе парадуюць нас новымі дасягненнямі ў галіне павелічэння птушынага роду.



У верасні пры начным выездзе з Дзянісам Кіцелем недалёка ад мяжы з Польшчай мы натрапілі на «загадкавую ферму». Ферма была неяк раскідана па частках на ўскрайку вёскі, і на кожнай быў свой вартаўнік. Вартаўнік механізаванага двара паведаміў некалькі фактаў назірання за совамі ў суседняй вёсачцы і дадаў, што на збожжасховішчы пастаянна лятае нейкая сава. Па словах вартаўніка збожжасховішча – дзядулі-кнігалюба, нікога там не было і няма. На другой частцы фермы жанчына-вартаўнік загадкава паведаміла, што «сава лятае, але, самае галоўнае, яна не гукае, як совы, а неяк страшна верашчыць». Падзякаваўшы, мы аддаліліся ад фермы, але ўсё ж вырашылі зрабіць праверку па-партызанску. Акутаныя цемрай восеньскай ночы, разышліся. Праз хвіліну, як толькі я апынуўся пад нейкім навесам, мой «Petzl» асвяціў прама перада мною велізарнага сабаку. Адрэналін зрабіў сваю справу, у галаве пранёсся мільён думак. Усё, прыехалі... Уратаванне прыйшло нечакана і вельмі дарэчы – сабаку з цемры нехта паклікаў. Падыйшоўшы бліжэй, я ўбачыў чалавека, які ціхенька, па-гаспадарску набіраў ужо, мабыць, дзесяты мех адборнай калгаснай бульбы. Ён адразу паведаміў, што чуў усе нашыя размовы з вартаўнікамі і што бачыў саву, якая пралятала ў святле ліхтара. Падзякаваўшы, нават не ведаю за што больш, агледзелі сховішчы, і... знайшлі з дзесятак пагадак сіпухі. Дзядуля-кнігалюб з'явіўся раптоўна і зацікавіўся пагадкамі больш, чым мяхамі з бульбай. Голас на магнітафонны запіс сава не падала (не сезон), як і сіпуха з пары, што праз год адсутнасці вярнулася на вышэйадзначаны комплекс. Туды мы заехалі для праверкі гадзіны праз дзве. Сіпуха некалькі разоў падлятала, быццам разпазнаючы, а потым вярнулася ў сваю вежу.

За некалькі апошніх гадоў у пошуках сіпухі на паўднёвым захадзе Беларусі паўдзельнічала шмат людзей. Гэта сябры-арнітолагі з Заходне-Палескага рэгіянальнага аддзялення АПБ, члены іх сямей, вартаўнікі, калгаснікі, супрацоўнікі міліцыі, пагранічнікі, вяскоўцы і г.д. Усім за ўсё вялікі дзякуй!

Штосьці ёсць такога прывабнага ў характве і цішыні беларускай ночы, нават у розныя поры году, у начных гуках вёсак, у начных знаёмствах, размовах і праверках, у начных сустрэчах з рознымі прадстаўнікамі жывёльнага свету; і, канешне ж, у заўсёды нечаканых і непаўторных гуках вельмі рэдкай, прыгожай, незвычайнай і таямнічай савы-сіпухі!



# ЕЛЬНЯ–2007

**Яўген СЛІЖ**

Балоты – лёгкія планеты. Звычайны выраз, з якім мы часта сустракаемся ў радыё- і ў тэлепраграмах, чытаем яго ў газетах і часопісах, чуем ад выкладчыкаў і спецыялістаў, але якому не надаем шмат увагі і ставімся да яго як да дадзенага. Тым больш, нас не цікавіць стан гэых амаль гіпатэтычных балот, ды і крытычныя змены на іх не выклікаюць занепакоенасці. Усё гэта ад таго, што большасць людзей не ў поўнай ступені ўсведамляе сабе сапраўднае значэнне балотаў, ды і увогуле, проста ніколі на іх не бывала. У наш час, калі чалавецтва сутыкаецца з глабальнымі экалагічнымі праблемамі: забруджванне паветра, выкід у атмасферу парніковых газаў, павелічэнне канцэнтрацыі $C0_2$, – роля балотаў значна ўзрастае. Выконваючы такія важныя функцыі, як паглынанне вуглекіслаты і ўтрыманне вады, балоты садзейнічаюць захаванню экалагічнай раўнавагі на зямлі ў цэлым.

Дарэчы, менавіта Беларусь славіцца не толькі свамі рэкамі і азёрамі, але і шматлікімі балотамі: верхавымі і нізіннымі, вялікімі і маленькімі, старымі і маладымі, некранутымі і АСУШАНЫМІ. Так, менавіта асушэнне і наступная торфараспрацоўка сталі аднымі з галоўных прычын дэградацыі і поўнага знікнення еўрапейскіх балот.

Адзін з яскравых таму прыкладаў – Ельня. Верхавое балота на поўначы Беларусі з цэлай сістэмай вялікіх і маленькіх азёраў, адно з буйнейшых у Еўропе і дакладна самае буйнае ў Беларусі. Яно мае статус Тэрыторыі, важнай для птушак (ТВП), і з'яўляецца рэспубліканскім гідралагічным заказнікам, у хуткім часе павінна набыць статус Рамсарскага ўгоддзя. На дадзены момант Ельня знаходзіцца ў крытычным стане. Рэзкае зніжэнне ўзроўня грунтовых вод, мінералізацыя верхніх слаёў торфа і, як вынік, шматлікія пажары, усё гэта прывяло да таго, што балота можа знікнуць увогуле, пераўтварыцца ў пазбаўленную жыцця «пустыню». Асноўная прычына ўсіх праблем Ельні, як увогуле і праблем іншых нашых балот – вынікі «меліярацыйнай ліхаманкі» якая пракацілася па Еўропе ў мінулым стагоддзі. Шматлікія меліярацыйныя каналы, якія будаваліся на працягу амаль сотні гадоў, не дазваляюць балоту падтрымліваць пэўны ўзровень грунтовых вод, неабходны для нармальнай жыццядзейнасці шматлікіх раслін і жывёл, у выніку чаго зніжаецца біяразнастайнасць. Выратаваць Ельню магчыма, для гэтага патрэбны канкрэтныя і рашучыя захады па аднаўленню гідралагічнага рэжыму балота, якія неабходна выконваць усім светам: пачынаючы ад мясцовага насельніцтва і заканчваючы Еўрапейскай супольнасцю. Першым жа такім крокам стаў валанцёрскі летнік, арганізаваны на Ельні гэтым летам намаганнямі АПБ.

Летнік па будаўніцтву на меліярацыйных каналах часовых плацін адбываўся на працягу аднаго жнівеньскага тыдня (21–25 жніўня) і сабраў у сваіх шэрагах 16 чалавек з усёй Беларусі. Месціліся мы ў вёсцы ???, што знаходзіцца непадалёку ад заказніка. Трэба адзначыць, што ўвесь гэты час нам дапамагалі супрацоўнікі заказніка «Ельня», цікавыя і добразычлівыя людзі: Пётр Іванавіч Багалей (дырэктар заказніка) і Дзмітры Міхайлавіч Шокель (супрацоўнік заказніка). Ды і мясцовае насельніцтва ставілася да нас з разуменнем.

Жнівень выдаўся надзвычай спякотным, а па словах нашых праваднікоў, працаваць удзень на балоце амаль немагчыма, таму мы вырашылі як мага больш выкарыстоўваць першую палову дня. Выходзячы яшчэ зацямна, мы ідзём каля гадзіны да месца нашай працы. Праходзім лес, які расце вакол усяе Ельні, і нарэшце робім першыя крокі па сапраўднаму верхаваму балоту, у кагосьці гэта выклікае адчуванне мяккага дывана пад нагамі, а нехта ўпэўненым крокам ідзе далей, хадзіць па верхавым балоце нашмат цяжэй, чым па звычайнай глебе. Перад намі адчыняецца балотная прастора, якая захапляе сваёй прыгажосцю, але разам з гэтым узнікае і непрыемнае адчуванне ад выгляду засохлых чэзлых сасёнак са слядамі агню каля камля, выніку знішчальных пажараў 2002 года, калі значная частка балота выгарала. Вось тут і пачынаеш разумець важнасць будучай працы.

Нарэшце дабіраемся да шкоднай канавы, якая ідзе амаль праз усё балота, знітоўваючы азёры Белае, Лебядзінае і Вялікае. Месцамі яна даволі вузкая, а часам становіцца шырокай, так што па ёй можна праплыць на чоўне. Падчас летніка ўзровень вады быў надзвычай нізкі, і канава амаль цалкам перасохла, што спрошчвала нашу задачу. Мы вырашылі пабудаваць першую дамбу на выхадзе з возера Вялікае, выбралі прынаднае для гэтага месца, і работа закіпела. Ранішняя прахалода і жаданне зрабіць нешта карыснае для балота спрыялі хуткаму ўзвядзенню дамбы, і гадзіны праз тры яна была зроблена. Уяўляла яна сабой два рады штыкетніку з засохлых сосен, між якімі быў закладзены торф. Зроблена ж усё гэта было па методыцы, узятай з лепшай на сённяшні дзень кніжкі па кіраванню верхавымі балотамі, выдадзенай у Вялікабрытаніі, – «Захаванне верхавых балот: практычны дапаможнік» (рэдактары Роб Стоўнмэн і Сцюарт Брукс). Новаспечаная дамба (як увогуле і ўсе іншыя) павінна была затрымаць выцяканне вады па канале і тым самым спрыяць павелічэнню ўзроўню вады ў возеры і на пэўнай частцы балота вакол яго. У гэты дзень удалося пабудаваць яшчэ адну дамбу. Усяго ж за час летніка намі было створана 14 плацін па ўсёй даўжыні канала. У дзень жа, вольны ад працы, мы вырашылі бліжэй пазнаёміцца з прыродай балота і выправіліся ў падарожжа да большага з азёр – «Ельня». Возера ўразіла сваімі памерамі, цікава было і тое, што берагі яго складаюцца ў асноўным з торфа.

Летнік – гэта не толькі будаўніцтва плацін, адпачынак, прырода, але і знаёмства з новымі людзьмі – нішто так не збліжае, як сумесны быт і праца. За гэты час адбылося шмат цікавага, але больш за ўсё запомніліся жыццярадасны настрой Рамана Шкабары, моцны характар і мэтанакіраванасць Вольгі Лукшыц, працавітасць і натхнёнасць Віктара Фенчука ды Яўгена Лабанава, жарты Сямёна Левага, неардынарнасць і адкрытасць Сяргея Зуёнка ды Руслана Шайкіна, улюбёнасць у сваю справу супрацоўнікаў заказніка, цікавыя і living рознабаковыя людзі з Шуміліна. Асабіста хацелася б адзначыць жыхарку Міёр Касю Казачонак, якая захапіла нас сваё прагай працаваць нароўні з мужчынамі: яна лёгка працуе як з сякерай, так і з рыдлёўкай, нават бензапіла ў яе руках выглядае гарманічна, а яшчэ яна проста вельмі чуллівы і спагадлівы чалавек. Усе гэтыя людзі стварылі сяброўскую атмасферу, у якой працавалася з асалодай і натхненнем. Летнік пакінуў шмат цёплых і прыемных успамінаў у яго ўдзельнікаў. Наша праца – гэта невялічкі крок у доўгім шляху па захаванні балот, і мы верым, што ён будзе пройдзены да канца, а нашы нашчадкі, як і мы, будуць захапляцца прыгажосцю і непаўторнасцю гэтых унікальных экасістэм.

# ВЫПРАБАВАННЕ... ВЕРАБ'ЁМ

**Сяргей ЗУЁНАК,** фота аўтара

З надыходам восені птушкі, выгадаваўшы чарговае пакаленне моладзі і паставіўшы яго на крыло, хто чародамі, а хто і так, паасобку, накіроўваюцца да поўдня, услед за адыходзячым летам, на тое яны і птушкі. Што чакае іх там, за тысячы вёрст ад «родных ніў», хто з іх даляціць да далёкіх краін і хто вернецца назад, аднаму Богу вядома...

Ляцяць птушкі на поўдзень, але ж не ўсе. Не бяруся меркаваць, чаму. Сухія прэсныя радкі ў мудрагелістых навуковых артыкулах сцвярджаюць, спасылаючыся на біяэнергетычныя законы, што, маўляў, ва ўмовах агульнага пацяплення ды з улікам нейкіх там кілакалорый, значна танней правесці зіму на ўласным падворку, чым перціся ў няблізкі свет за доўгім рублём. Зразумела, калі дома кормяць добра. Можа, яно і так, а можа, кіруюць гэтымі дамаседамі своеасаблівы птушыны патрыятызм ці проста звычайная лянота, але ўсё ж, згадзіцеся, для прыняцця такога рашэння мужнасць пэўная патрэбна.





Ну, а застаўшыся зімаваць, кожны выкручваецца як можа: шматлікай варонінай радні – гракам, каўкам ды і самой шэрай сястрыцы – працей за ўсё: для іх любая сметніца – шведскі стол, зусім ужо адыёзныя зімоўшчыкі накшталт валавокі альбо малінаўкі трымаюцца паблізу ад вады – глядзіш, і атрымаецца адшукаць паўздранцвелую кузюрку на вузкай палосцы чыстай ад снегу зямлі. А вось самыя практычныя сініцы, правёўшы лета пад зялёнымі ляснымі шатамі, узімку амаль пагалоўна збіраюцца да чалавечага жытла – варыянт бяспройгрышны – хоць на градус-другі, але ж цяплей, чым у лесе, начных схованак нават больш, чым патрэбна, не кажучы ўжо пра «гуманітарную дапамогу» ў выглядзе бясплатных птушыных сталовак.

Але ж з усёй гэтай кампаніі зімоўшчыкаў я больш за ўсіх паважаю вераб'я. Вось гэта сапраўдны патрыёт! І ніякая біяэнергетыка тут ні пры чым. І ва «ўмовах пацяплення», і раней, калі лютавалі маразы, словам, заўжды ён быў і будзе нашым адвечным добрым суседам. Не можа гэта птушка без людзей, і ўсе тут! Не верыце? Зазірніце ў любую з чарнобыльскіх вёсак.

Будзённыя, «дамашнія», штодзень шастаюць пад нагамі альбо абмяркоўваюць нешта сваё, вераб'інае, сабраўшыся на пустых скрынях побач з крамай – як тут не правесці аналогію з намі, грэшнымі? Птушкі гэтыя так шчыльна ўвайшлі ў наша жыццё, што сталі калі і не сваякамі, то старымі добрымі сябрамі – дакладна. Шэрыя, непрыкметныя, а паглядзіце зблізу ўважліва – за ўсёй гэтай сціпласцю хаваецца строгая прыгажосць, так і сярод людзей: вопратку ад сапраўднага майстра заўважаеш не адразу, перш-наперш вока чапляецца за нешта пярэстае, крыклівае з аднаразавых кітайскіх вырабаў. Сціплыя-сціплыя, але ж могуць часам і гэтыя аскеты ад знешняга погляду адкалоць нумар, як і зрабіў мінулай зімой адзін мінскі верабейка, апрануўшыся ў амаль што белы парадны смокінг. Паўгорада хадзіла дзівіцца на гэткае цуда. А месца ж хітрун таксама выбраў адпаведнае – адзін з лепшых сталічных кінатэатраў, некалькі навучальных устаноў, ды і ўвогуле цэнтр горада – гледачоў хоць адбаўляй. А вераб'іная білетная каса ў выглядзе кавярні і крамы са смачнай назвай «Свежы хлеб» у двух кроках – пэўна, неблагі прадзюсер абсталёўваў гэтае шоу.

Кажуць, што «браты нашы меншыя» – кузюркі там розныя, а тым больш, птушкі са звярамі нічога не разумеюць і не маюць пачуццяў – не веру я ў гэта, хлусня!

Прыходзіць на памяць гісторыя, як некалі, падчас адной з вандровак, прыпыніліся мы з напарнікам, дарэчы, вялікім прыхільнікам усходняй філасофіі, на ўскрайку дарогі адпач-

нуць і крыху падсілкавацца. Над неглыбокай лясной лужынай побач з намі вілася процьма невялічкіх матылькоў-сатыраў: узляталі, садзіліся на беражок, на кветкі, на вопратку і працягнутыя рукі майго сябра, цалкам ігнаруючы мяне. Усе мае намаганні пасябраваць з матылькамі так і не ўвянчаліся поспехам. «А ты зазірні ў сябе, можа, маеш на душы нейкі каменьчык», – на поўным сур'ёзе параіў сябра. І мне чамусьці адразу ўсплыла ў памяці мая першая дзіцячая калекцыя насякомых, якая шмат гадоў назад згінула, усімі забытая, дзесьці на гарышчы бабулінай хаты...

Вось так і з вераб'ямі. Здаецца, і зіма была лагодная – ні табе маразоў, ні табе снегу, словам, ежы птушынай у наваколлі хапала. Але ж давялося мне на адным з мінскіх прыпынкаў пабачыць відовішча, якое да гэтага часу стаіць перад вачыма. Уявіце сабе: легкавушкі-таксі выстраіліся каля тратуара, іх кіроўцы у чаканні кліентаў згуртаваліся недалёка ад машын, размаўляюць, дымяць цыгаркамі, лузгаюць сланечнік. Звярнуў на сябе ўвагу адзін дзядзька, які стаяў крыху паасобку. Дакладней, не сам дзядзька, а вераб'і, якія весела і шумна віліся вакол яго. Сам жа таксіст, паклаўшы на далонь некалькі зярнятак сланечніка, выцягваў наперад руку, становячыся падобным на добра вядомы ўсім помнік, а птушкі літаральна абляплялі яе, распачынаючы свае вераб'іныя сваркі проста ў чалавека на далоні. Далей – дзіўней. Дзядзька падносіў руку з птушкамі да твару, і вераб'і пачыналі выхопліваць загадзя зацiснутыя між яго вуснаў зернейкі, кранаючы дзюбамі прапахлыя тытунём вусы.

Як і гаворыць асноўны закон фатографа-натураліста, камеры ў мяне ў той момант пад рукой не аказалася.

Больш шукаць тога таксіста я не стаў. А вось спланаваны і пастаўлены ў хуткім часе навуковы эксперымент паказаў: так, імкнуцца птушкі да чалавека, вось толькі не да кожнага. Што кіруе імі ў той час, на якім узроўні адчуваюць яны людскія намеры і пачуцці, невядома мне і цяпер. Але ж, як сведчаць тыя, каму пашчасціла быць адзначаным вераб'іным даверам, адчуванне трапяткіх птушыных лапак на далоні непараўнальнае ні з чым...

Калі маеце жаданне, паспрабуйце, можа, і ў вас атрымаецца. На шчасце, вераб'і вакол нас пакуль што ёсць, і, спадзяюся, ніколі не перавядуцца. Я ж, памятаючы колішнюю гісторыю з матылямі і параду свайго сябра, рызыкаваць не стаў.

# САЛАВЕЙ У ТВОРАХ НАШЫХ ЧЫТАЧОЎ

## Калыханка для сонейка

Салавейка, салавей,
Ты нам песеньку прапей.
Рады ўсе да ранку
Слухаць калыханку.

Як кладзецца сонца спаць,
Пачынаеш ты спяваць.
Як і я, пад калыханку
Сонца спіць ажно да ранку.

А як раніца прыйшла,
Сціхла песня салаўя.
Устала сонейка гуляць,
Салавейку пара спаць.

Вечарам кладуся спаць,
Стане мама мне спяваць.
А для сонца калыханку
Салавей пяе да ранку.

*Удзельнік дзіцячага літаратурнага клуба «Купалінка» Шашкоўскай сельскай бібліятэкі*
*Антон Мазуркевіч, 7 год.*
*Май 2007 (в. Шашкі, Мінская вобласць, Стаўбцоўскі раён)*

## Казка аб прыгажосці

Жыла-была дзяўчынка Каця. Вельмі любіла яна ўсё прыгожае. Убачыла прыгожую сукенку:

– Вой, якая прыгажосць!

Убачыла новую ляльку – зноў:

–Вой, якая прыгажосць! І валаскі, і вочкі!...

Убачыла кацянятка – аж вочкі ў яе загарэліся:

– Коцічак, маленькі мой, ты лепшы за ўсіх! Ні ў кога няма такіх вушак і вусікаў! Ні ў кога не знайсці такіх мяккіх лапак, такога пушысценькага хвосціка! А шэрстка – як шоўк!

Гладзіць Каця коціка па спінцы, любуецца ім, а той вочкі прыжмурвае, вусікі натапырвае, песеньку сваю мурлыкае. Радуецца, значыць, што ён падабаецца Каці, што ён – прыгажэйшы за ўсіх. А Каця ўжо забылася і пра сукенку, і пра ляльку, толькі гуляе са сваім Прыгажунчыкам, песціць яго, пылінкі, здаецца, здзьмухвае з яго.

А каток, бачачы гэта, панадзіўся крыўдзіць маленькіх. Дачакаецца, калі квактуха вывядзе на сонейка куранятак, падпільнуе, калі яны рассыплюцца



**Салаўіная сямейка**
*Яўгенія Навіцкая, 16 год*

# САЛАВЕЙ У ТВОРАХ НАШЫХ ЧЫТАЧОЎ

па малой траўцы, і – давай на іх палявацьі! А калі раптам квактуха ці певень223 стануць на абарону дзетак, як стане Прыгажунчык крычаць, жаліцца:

– Мяў! Мяў! Мяне крыўдзяць!!!

Пачуе гэта Каця, адразу прыбяжыць на абарону свайго катка. Яго пашкадуе, смятанкай пачастуе, а квактуху далей у сад прагоніць, не думаючы, што там сонейка мала для малых куранятак.

А каток пачаў ператварацца ў сапраўднага хулігана. Ён ўжо, не саромеючыся, выхваляўся перад вераб'ямі, ластаўкамі, гусямі, нават сабакам сваей выключнасцю. Для Каці ж ён проста дурэе!

І пачула Прыгажунчыка аднойчы птушачка.

Маленькая яна была, шэранькая, таму амаль не відаць яе было сярод маладой лістоты бэзу. Не вытрымала птушачка таго, як каток выхваляецца сваей прыгажосцю і безпакаранасцю, і прамовіла:

– Сам ты прыгожы, але душа ў цябе чорная. Таму і выхваляцца табе няма чым.

– Як гэта, як гэта няма чым?! – залямантаваў Прыгажунчык. – А мая шубка!!! А мае лапкі!!! А мае вушкі!!!

– Што нам з тваёй прыгажосці, калі твае кіпцікі прыносяць нам гора і слезы, – сказала невядомая птушачка.

– Праўда, праўда, – заціўкалі верабейкі, кураняткі, ластаўкі, якія чулі гэту размову.

І папрасілі птушачку:

– Паспявай нам, Салавейка, каб мы забыліся на свой сум хоць на крышачку.

І салавейка заспяваў. Яго спеў далятаў да сэрца кожнага, хто яго слухаў, і нікога не пакідаў раўнадушным. Здавалася, усё навокал, заціхла, каб паслухаць песню Салоўкі.

Пачула яе і Каця. Здзівілася яна:

– Хто гэта так спявае? І чаму я раней не чула такіх спеваў?

– Гэта птушачка, што сядзіць на кусце, – падскочыў Прыгажунчык. – Паглядзі, мяў-мяў, якая яна непрыгожая!

Каця слухала спеў Саловачкі і здзіўлена яго разглядала. А потым ціха сказала:

– Не, Прыгажунчык. Ён прыгожы, вельмі прыгожы. Бо каб быць прыгожым, трэба любіць увесь свет.

Каток здзіўлена лыпнуў вачыма і зноў прыслухаўся да спеваў. А яны запаўнялі сабой увесь свет.

*Работа вучня 4-га класа*
*Андрэя Бароўкі Селішчанскай САШ*

## Соловей: создание мира

Этот мир целиком состоял из серого: серая земля тянулась к серому небу, серые воды реки трусливо жались к серому дну, не желая касаться грязных пятен серого мха. Цвет сводил с ума, стирая грани между днем и ночью, прошлым и будущим, жизнью и смертью. Демон давно уже потерял счет времени, он устал, и, наверное, предложи Тюремщик выбор: жить здесь или умереть, – демон выбрал бы смерть. Но Тюремщик выбора не предлагал, более того, в шутку наделил Демона бессмертием.

Целая вечность в серых тонах.

Солнце, добравшись до края небосвода, повернуло назад, и Демон распахнул крылья в тщетной надежде уловить хотя бы каплю тепла.

–- Скучаешь? – Фигура из песка идеально вписывалась в рамки этого мира, столь же расплывчатая и унылая.

– Скучаю. – Демон давно уже относился к визитам своего Тюремщика спокойно: что толку гневаться, если твой гнев лишь забавляет?

– Не передумал?

– Нет. – Стандартный вопрос и стандартный ответ. Традиция.

– Не надоело?

– Нет.

– А мне надоело, – произнес тюремщик, нарушив давно установившиеся каноны беседы. – Ты не прав, и я это докажу.

– Как?

– Просто. Я дарю тебе этот мир. Делай с ним, что хочешь.

– И что? - Предложение Демона не заинтересовало, этот мир и так принадлежал ему давно, настолько давно, что он уже не мог вспомнить, когда попал сюда. Вся жизнь разделилась на «до» и «после». До... А, собственно говоря, что было «до»? Что-то очень хорошее, окрашенное в зеленый или синий, пахнущее ветром и горячим солнцем, живое...

– Ты же хотел стать Богом, – Тюремщик уселся на песок, и серый мох свернулся в испуганные мокрые клубочки. Мир чувствовал чуждую ему силу и боялся. Когда-то он так же реагировал и на Демона, но за прошедшие тысячелетия привык, и теперь даже радовался, если Демон снисходил до общения. Хотя какое может быть общение со мхами?

– У тебя есть мир, есть сила, используй ее. И если тебе удастся создать хоть что-то, я признаю свою неправоту.

Тюремщик ушел как всегда без предупреждения, просто песчаная фигура вдруг осела серой, чуть влажноватой горой.

Создать... Очередная шутка. Тюремщик тоже скучает, отсюда эти глупые идеи, кому как не ему, победителю, знать, что у Демона не осталось ни капли силы.

Рука сама зачерпнула горсть песка, холодного, стерильного, напрочь лишенного признаков жизни. Что создать?

Память молчала, воспоминания о прошлом мире представляли кучу разноцветных лоскутов. Ветер. Солнце. Замечательно черная, горячая земля. Маленькое существо, сидящее на плоском камне, у него ярко-бирюзовые крылья и желтая грудка. Существо поет, а мир вокруг молчит, вслушиваясь в эту песню.

Пальцы быстро, пока воспоминание не ускользнуло, лепили из песка фигурку, получалось не слишком похоже, но Демон старался. Впервые работа доставляла ему удовольствие. Наконец на ладонь лег серый комочек, отдаленно напоминающий Существо из прошлого мира.

Знание, что следует делать дальше, пришло из ниоткуда. Коготь с легкостью вспорол кожу на запястье, и черная – совсем, как та горячая, пахнущая жизнью земля – капля крови упала на песок. Она бесконечно долго просачивалась внутрь, склеивая между собой песчинки в единое целое...

В мире появилось время.

Темная корочка распалась на половинки, выпуская на волю Существо. Маленькое, взъерошенное, невзрачное, но живое, с черными бусинками глаз и крохотными лапками, которыми Существо цеплялось за коготь. Оно было бесконечно прекрасно, и Демон сидел, боясь шелохнуться – а вдруг оно исчезнет? Но Существо не исчезало, наоборот, оно отряхнулось, заботливо почистило серые перышки, и, оглядевшись по сторонам, запело.

Мир изменился.

– Надо же, у тебя получилось. – Тюремщик, ежась от холода, сидел на песке. Странным образом звук пробудил мир к жизни: Демон ощущал, как лучи солнца робко касаются крыльев, как мокрый песок липнет к коже, а ветер норовит отобрать остатки тепла. Это было замечательно.

– Получилось...

– Всего лишь птица, ничего особенного. И серая какая-то. Не мог придумать ничего пооригинальнее? Впрочем, твое дело. Кстати, поет неплохо. Как назовешь?

– Не знаю. Хотя нет, знаю. Соловей.

– И что это значит?

– Ничего. Просто слово. Красивое. – Демон подбросил птицу вверх, и с удовольствием вдохнул свежий воздух. Больше не существовало ни «до», ни «после», как не существовало ни победителя, ни побежденного.

– Что ж, бывай, – сказал тот, кто был Тюремщиком. – Удачи тебе.

Светлеющее небо содрогнулось, выпуская на волю грозы. Новорожденный мир просыпается.

*Екатерина Мечиславовна Насута, г. Гродно*









1 **«Урок пения».** *Денис Кривошеин, 8 лет, Слоним*
2 **«Песня весны».** *Надежда Емельянава, 13 лет, Солигорск*
3 **«Опасность».** *Яна Болотикова, 10 лет*
4 **«Утренняя песня».** *Виктория Ярошевич, 13 лет, Столбцы*
5 **«Песня соловья».** *Анна Дубник, 15 лет, Сморгонь*



